Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ
САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА
САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР

15 КАСТРЫЧНІКА 1929 г.

№ 11 (70)

V-ты год выданьня

ВЫДАНЬНЕ
КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК
І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР
МЕНСК — 1929 г.

# ЗЬМЕСТ

*Стар.*

## 1. Ад Урадавай Камісіі пры СНК БССР па падрыхтоўцы правядзеньня 7-гадзіннага рабочага дня.

1. Перавесьці у 4-м квартале 1928-29 г. на 7-гадзінны рабочы дзень фабрыку „Дняпроўская мануфактура“ ў м. Дуброўне.

2. У першым квартале 1929-30 г. перавесьці на 7-гадзінны рабочы дзень:

1) Панчошна-трыкатажную фабрыку ў Віцебску,
2) Махорачную фабрыку ў Віцебску,
3) Шклозавод „Камінтэрн“ у Бабруйскай акрузе,
4) Дражджавы завод „Пралетары“ ў Менску.

Нам. Старшыні Ўрадавае Камісіі пры СНК БССР па парыхтоўцы правядзеньня 7-гадзіннага рабочага дня *Д. Захарава.*

Адказны Сакратар *Х. Гольдзінберг.*

3 кастрычніка 1929 г.

---

## 2. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра абавязак прадпрыемстваў, устаноў і гаспадарак мецъ Кодэкс аб Працы БССР.**

На падставе арт. 145 Кодэксу аб Працы БССР і арт. 26 пастановы ЦВК і СНК СССР за 20 лютага 1929 г. „Пра парадак ужываньня Кодэксу Законаў аб Працы ў кулацкіх гаспадарках“ (З. З. СССР 1929 г. № 14, арт. 117), Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Усе прадпрыемствы, установы і гаспадаркі з лікам рабочых і служачых ад 5, таксама ўсе раённыя выканаўчыя камітэты і сельскія саветы павінны вывешваць на відным месцы Кодэкс аб Працы БССР.

2. Нагляд за выкананьнем гэтай пастановы ўскладаецца на інспэкцыю працы.

3. Асобы, якія парушаюць гэтую пастанову, прыцягваюцца да адказнасьці ў адміністрацыйным парадку, праз накладаньне штрафу да 100 руб., паводле пастановы ЦВК і СНК БССР за 1 верасьня 1928 г. „Пра адказнасьць за парушэньне чыннага законадаўства аб працы і сацыяльным страхаваньні“ (З. З. БССР 1928 г. № 26, арт. 257 і 1929 г. № 16, арт. 87).

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

Ст. Праўны Інспэктар НКП БССР *Х. Гольдзінберг.*

12 верасьня 1929 г.
№ 63.

---

### 3. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра ўвядзеньне ў сілу на тэрыторыі БССР абавязковае пастановы НКП СССР за 24 ліпеня 1929 г. № 234 „Об устройстве и содержании жилых помещений для рабочих и служащих по подготовке торфяных болот“.**

У дадатак да пастановы сваей за 14 лютага 1929 г. № 10 (Бюл. СНК 1929 г. № 2) Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе ўвесьці ў сілу на тэрыторыі БССР абавязковую пастанову НКП СССР за 24 ліпеня 1929 г. № 234 „Об устройстве и содержании жилых помещений для рабочих и служащих по подготовке торфяных болот“ („Известия НКТ СССР“ 1929 г. № 34 (35).

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

Ст. Сельска-Гаспадарчы Інспэктар НКП БССР *Л. Лашкевіч.*

17 верасьня 1929 г.
№ 64.

---

### 4. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра скасаваньне абежніку свайго за 26 сакавіка 1929 г. № 17 „Пра камплектаваньне броні падлеткаў у прамыслова-каперацыйных таварыствах (арцелях)“.**

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

З часу выданьня інструкцыі НКП СССР за 16 жніўня 1929 г. № 266 „Пра броню падлеткаў у прамысловых каперацыйных таварыствах („Известия НКТ СССР“ 1929 г. № 36) лічыць скасаваным свой абежнік за 26 сакавіка 1929 г. № 17 „Пра камплектаваньне броні падлеткаў у прамысловых каперацыйных таварыствах (арцелях)“ (Бюл. СНК 1929 г., № 3).

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

Ст. Інспэктар па Рэгуляваньню Рынку Працы НКП БССР *С. Мышалаў.*

17 верасьня 1929 г.
№ 65.

---

### 5. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра правілы ўнутранага парадку для дзяржаўных, каперацыйных і грамадзкіх устаноў.**

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Запрапанаваць усім дзяржаўным, каперацыйным і грамадзкім установам узгодніць у месячны тэрмін з дня апублікаваньня гэтай пастановы чынныя ў іх правілы ўнутранага парадку і табаль пакараньняў з правіламі і табалем, зацьверджанымі НКП СССР 27-VIII 1929 г. („Изв. НКТ СССР“ 1929 г., № 37).

2. Скасаваць свае пастановы за 23-V 1928 г. № 38 „Пра зацьверджаньне тыповых правілаў унутранага парадку для дзяржаўных устаноў, кіруючага апарату дзяржаўных, прамысловых і гандлёвых прад-

прыемстваў і акцыйных таварыстваў з пераважным удзелам дзяржаўнага капіталу“ (Бюл. СНК 1928 г. № 7) і за 25-VI 1929 г. № 46 пра зьмену паказанай вышэй пастановы за 23 мая 1928 г. № 38 (Бюл. СНК 1929 г. № 8).

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

Старшы Праўны Інспэктар НКП БССР *Х. Гольдзінберг.*

23 верасьня 1929 г.
№ 66.

---

Узгоднена з Камітэтам па Будаўніцтву пры Эканамічнай Нарадзе БССР.

## 6. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра дапаўненьне абавязковай пастановы НКП СССР за 5 чэрвеня 1929 г. № 186 „Пра меры бясьпекі пры пабудове каменных будынкаў без знадворнага рыштаваньня“.**

Для разьвіцьця і дапаўненьня абавязковай пастановы НКП СССР за 5-VI 1929 г. № 186 „Пра меры бясьпекі пры пабудове каменных будынкаў без знадворнага рыштаваньня („Известия НКТ СССР“ 1929 г. № 22-23) і замест якога, г.-зн. рыштаваньня, павінны рабіцца драўляныя казыркі, Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

Дазволіць праводзіць пабудову сьцен з насьцілу адпаведнага міжпаверхавага перакрыцьця толькі пасьля таго, як вышыня сьцен, што будуюцца, будзе даведзена з падмосткаў ніжняга паверху звыш насьцілу ня менш як на 0,7 мэтра.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

Старшы Тэхнічны Інспэктар НКП БССР *М. Сахоўскі.*

1 кастрычніка 1929 г.
№ 67.

---

## 7. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра зьмену арт. арт. VII і X інструкцыі свае за 30 мая 1929 г. № 37 „Пра ўжываньне пастановы ЦВК і СНК БССР за 1 верасьня 1928 г. пра адказнасьць за парушэньне чыннага законадаўства аб працы і сацыяльным страхаваньні“ (З. З. БССР 1928 г. № 26, арт. 257 і 1929 г. № 16, арт. 87).**

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе зрабіць наступныя зьмены ў інструкцыі сваёй за 30 мая 1929 г. № 37 (Бюл. СНК БССР 1929 г. № 6).

1. Арт. VII запісаць так:

„VII. Права накладаць адміністрацыйнае пакараньне да 25 руб. маюць сельскагаспадарчыя і транспартныя вучастковыя інспэктары працы. Штрафы да 100 рублёў маюць права накладаць акруговыя і старшыя транспартныя інспэктары працы, а таксама Старшы праўны і Старшы сельскагаспадарчы інспэктары НКП БССР“.

2. Арт. X запісаць так:

„X. Скаргі на пастановы праўных і сельскагаспадарчых інспэктароў аб накладаньні штрафаў падаюцца акруговаму інспэктару працы, скаргі на пастановы транспартных вучастковых інспэктароў працы—Старшаму транспартнаму інспэктару працы. Калі адміністрацыйнае пакараньне

накладзена акруговым, Старшым транспартным альбо Старшым праўным і Старшым сельскагаспадарчым інспэктарам працы НК Працы, то скарга падаецца ў Народны Камісарыят Працы БССР. Скарга падаецца не пазьней як праз 2 тыдні з дня атрыманьня копіі пастановы пра накладаньне штрафу зацікаўленай асобай. Скарга павінна быць разгледжана ў 5-цідзённы тэрмін і аб рашэньні на працягу 3-х дзён паведамляецца асоба, якая падала скаргу.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

Старшы Праўны Інспэктар НКП БССР *Х. Гольдзінберг.*

9 верасьня 1929 г.
№ 62.

---

## 8. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Фінансаў і Кіраўніцтва Дзяржаўнага Страхаваньня БССР

### пра збор плацяжоў па абавязковым акладным страхаваньні ў сельскіх мясцовасьцях БССР (за выключэньнем Віцебскай акругі) у 1929/30 г.

(*Выдана на падставе п. 2 пастановы Эканамічнай Нарады пры СНК БССР за 31 жніўня 1928 г.—Бюл. СНК БССР за 1928 г. № 12*).

#### Органы, на якія ўскладзен збор акладных страхавых плацяжоў.

§ 1. Плацяжы па сельскім абавязковым акладным страхаваньні прымаюцца ад страхавальнікаў раённымі выканаўчымі камітэтамі і сельскімі саветамі на падставе складзеных агэнцтвамі Дзяржаўнага Страхаваньня страхавых акладных лістоў.

У тых мясцовасьцях, дзе ёсьць агэнцтвы або касы Дзяржбанку, райвыканкомы могуць даручаць прыём страхавых плацяжоў гэтым агэнцтвам або касам Дзяржбанку.

Агэнцтвы Дзяржаўнага Страхаваньня прымаюць страхавыя плацяжы, калі страхавальнікі пажадаюць сплачваць іх непасрэдна страхавому агэнцтву, а таксама ўтрымліваюць плацяжы пры выплаце страхавальнікам узнагароды за страхавыя страты.

Зьняцьце налічаных страхавых плацяжоў ва ўсіх выпадках (за выключэньнем льгот) і зварот іх па розных прычынах страхавальнікам робіцца выключна агэнцтвамі Дзяржаўнага Страхаваньня.

#### Разьмеркаваньне атрыманай сумы паміж нядоімкай і акладам.

§ 2. Калі за страхавальнікам, разам з акладам, лічыцца нядоімка, дык з атрыманых грошай перш за ўсё папаўняецца нядоімка мінулага году з пеняй. Лішак-жа, які застанецца пасьля пагашэньня нядоімкі з пеняй, залічваецца ў аклад.

#### Адзнакі ў страхавых акладных лістох аб атрыманьні плацяжоў.

§ 3. Пры кожным атрыманьні ад страхавальнікаў акладных страхавых плацяжоў робіцца адзнака аб гэтым на страхавых акладных лістох за подпісам асобы, што атрымала грошы, і прыкладаецца пячатка тэй установы, якая прымае грошы.

Атрымліваць грошы без адзнакі на страхавых акладных лістох альбо выдаваць расьпіскі ці квіты аб атрыманьні грошай забараняецца.

### Складаньне рэестраў платнікаў.

§ 4. Адначасова с адзнакай на страхавым акладным лісьце аб уплаце страхавых плацяжоў асоба, атрымаўшая грошы, запісвае атрыманую суму ў рэестры паступленьняў плацяжоў сельска-гаспадарчага падатку і акладнога страхаваньня (форма № 5).

§ 5. У рэестры запісваецца кожны платнік паасобку з адзнакаю: а) у графе 9 адзначаецца нумар страхавога акладнога ліста (№ па імяным сьпісу) і б) у графах 10—12 паказваецца атрыманая сума, з разьмеркаваньнем на нядоімку, аклад і пеню.

§ 6. Акладныя страхавыя плацяжы, атрыманыя касамі раённых выканаўчых камітэтаў і Дзяржбанку, а таксама страхавымі агэнцтвамі, павіны запісацца ў рэестры асобна па кожным сельскім савеце.

§ 7. У канцы кожнага дня падлічваюцца па рэестрах атрыманыя сумы (нядоімка, аклад, пеня і разам), з паказаньнем агульнай сумы прапісам. Правільнасьць падрахункаў сьведчыцца подпісамі адказных работнікаў установ і асобамі, якія прымалі грошы.

### Здача сельскімі саветамі атрыманых сум.

§ 8. Сельскія саветы атрыманыя імі ад страхавальнікаў сумы плацяжоў, разам з рэестрамі, якія складаюцца ў 2-х экз., здаюць раённым выканаўчым камітэтам адначасова з здачай сельска-гаспадарчага падатку, але ня менш аднаго разу ў тыдзень.

### Прыём райвыканкомамі сабраных сельсаветамі плацяжоў.

§ 9. Пры атрыманьні раённымі выканаўчымі камітэтамі ад сельскіх саветаў страхавых плацяжоў, правяраецца правільнасьць падрахункаў па графах рэестраў і сваечасовасьць здачы грошай.

У атрыманьні грошай робяцца адпаведныя надпісы на абодвых экзэмплярах рэестру за подпісам касіра і загадчыка фінчасткі райвыканкому.

Адзін экзэмпляр рэестру застаецца ў раённым выканаўчым камітэце, а другі зварочваецца сельскаму савету.

### Паведамленьне сельсаветаў аб атрыманых іншымі ўстановамі плацяжох.

§ 10. Раённыя выканаўчыя камітэты на сумы, якія паступілі ад страхавальнікаў непасрэдна ў касы раённага выканаўчага камітэту, а таксама ў страхавое агэнцтва ці Дзяржаўны Банк, адзін экзэмпляр рэестру пасылаюць адпаведным сельскім саветам для адзнакаў аб паступіўшых страхавых плацяжох у імяных сьпісах сельсаветаў.

### Запіс райвыканкомамі атрыманых плацяжоў.

§ 11. У канцы аперацыйнага дня касір раённага выканаўчага камітэту падлічвае сумы плацяжоў, як непасрэдна паступіўшыя ў касу раённага выканаўчага камітэту, так і здадзеныя сельскімі саветамі, запісвае іх агулам у касавую кнігу раённага выканаўчага камітэту ў графе „Страхавыя плацяжы", адзначаючы на кожным рэестры артыкул запісу па касавай кнізе.

Па касавых кнігах раённых выканаўчых камітэтаў паступіўшыя плацяжы запісваюцца поўнасьцю, не выключаючы затрыманай сельскімі саветамі камісійнай узнагароды (§ 18 інструкцыі).

Сумы за прымусовае спагнаньне страхавых плацяжоў, што паступаюць у распараджэньне райвыканкомаў, праводзяцца па адпаведных рахунках райвыканкомаў.

### Падлік страхавых плацяжоў, здадзеных платнікамі іншых раёнаў.

§ 12. Атрыманыя страхавыя плацяжы ад платнікаў іншых раёнаў запісваюцца ў асобныя рэестры, складзеныя ў двух экзэмплярах па кожнаму раёну, з адзнакай ва ўвазе рэестру якога сельсавету платнік, і запісваюцца па касавай кнізе на агульных умовах (§ 11). Адзін экзэмпляр рэестру застаецца ў раённым выканаўчым камітэце, які атрымаў грошы. Другі экзэмпляр рэестру адсылаецца раённаму выканаўчаму камітэту па месцы знаходжаньня застрахаванай маемасьці платнікаў, для паведамленьня адпаведных сельскіх саветаў аб паступленьні плацяжоў.

§ 13. Рэестры, якія застаюцца ў райвыканкомах, хаваюцца па асобных сельсаветах, як апраўдальныя дакумэнты. Па запатрабаваньнях страхавых агэнцтваў, рэестры гэтыя даюцца ім часова для запісу паступіўшых плацяжоў па асабовых рахунках агэнцтваў.

### Агульны падлік страхавых плацяжоў.

§ 14. Для падліку акладных страхавых плацяжоў, раённыя выканаўчыя камітэты вядуць рахункі для кожнага сельскага савету свайго раёну. Дапрылічаныя, выключаныя і зьнятыя сумы акладных страхавых плацяжоў улічваюцца раённымі выканаўчымі камітэтамі на падставе зьвестак, якія павінны давацца страхавымі агэнцтвамі ў канцы кожнага месяцу.

### Тэлеграфныя паведамленьні аб выніках збору плацяжоў.

§ 15. Два разы ў месяц, 1 і 16 дня, раённыя выканаўчыя камітэты складаюць і пасылаюць акруговым страхавым агэнцтвам тэлеграмы альбо тэлэфанаграмы аб паступіўшых па раёну плацяжох за ўвесь час з пачатку акладной кампаніі. Прыкладны зьмест тэлеграмы альбо тэлэфанаграмы такі: „Менск Акрстрах 1156 тчк 8281 подпіс“. Гэта значыць, з пачатку кампаніі паступіла нядоімкі 1156 руб. і акладу 8281 руб.

Зьвесткі аб паступіўшай пені ў тэлеграму ня ўключаюцца.

### Складаньне параўнальных табліц.

§ 16. Пасьля адсылкі тэлеграмы, раённыя выканаўчыя камітэты складаюць параўнальныя табліцы аб зборы акладных страхавых плацяжоў па асобных сельскіх саветах і пасылаюць усім сельскім саветам раёну, а адзін экзэмпляр перадаюць раённаму страхавому агэнцтву.

### Перавод атрыманых грошай Праўленьню Дзяржстраху БССР.

§ 17. Раённыя выканаўчыя камітэты, якія знаходзяцца ў мясцовасьцях, дзе ёсьць установы Дзяржаўнага Банку (аддзяленьні, агэнцтвы, касы), здаюць у гэтыя ўстановы сабраныя сумы акладных страхавых плацяжоў для пераводу на бягучы рахунак Праўленьня Дзяржаўнага Страхаваньня БССР не пазьней наступнага за прыёмам грошай рабочага дня.

Астатнія раённыя выканаўчыя камітэты, у пэрыад масавага паступленьня страхавых плацяжоў, перасылаюць сабраныя сумы ня менш двух раз у тыдзень паштовымі пераводамі ў адрас Праўленьня Дзяржаўнага Страхаваньня БССР (г. Менск).

У тых выпадках, калі сабраныя сумы акладных страхавых плацяжоў не перавышаюць 100 рублёў, яны ў Праўленьне Дзяржаўнага Страхаваньня не пасылаюцца, а перадаюцца страхавому агэнцтву.

Па запатрабаваньнях страхавых агэнцтваў, з сабраных сум страхавых плацяжоў раённыя выканаўчыя камітэты выдаюць (па квітох форма фін. № 15) патрэбныя сумы грошай на аплату страхавых страт.

### Узнагарода за збор страхавых плацяжоў.

§ 18. З усіх паступіўшых па раёну сум акладу і нядоімкі страхавых плацяжоў (як непасрэдна ад страхавальнікаў, так і ад сельскіх саветаў), а таксама і з унесеных страхавальнікамі сум у Дзяржаўны Банк і страхавое агэнцтва раённы выканаўчы камітэт сьпісвае 2,35% для ўзнагароды за збор страхавых плацяжоў.

З памянёнай сумы (2,35%) раённы выканаўчы камітэт сплачвае сельскім саветам паўтара (1½) проценты, а 0,85% пакідае ў сваім распараджэньні на выдаткі па спагнаньню плацяжоў.

Сельскія саветы за непасрэдна сабраныя сумы плацяжоў, належачыя ім 1½% для ўзнагароды адлічваюць пры здачы грошай. З паступіўшых непасрэдна ад страхавальнікаў у касы раённага выканаўчага камітэту, Дзяржаўнага Банку і страхавога агэнцтва сум 1½% райвыканкомы сплачваюць сельскім саветам адзін раз у месяц.

За пеню камісійная ўзнагарода не выдаецца.

### Паштовыя выдаткі па збору акладных плацяжоў.

§ 19. Выдаткі за перасылку тэлеграм аб сабраных сумах страхавых плацяжоў і за перавод страхавых сум Праўленьню Дзяржаўнага Страхаваньня БССР пакрываюцца за рахунак паступіўшых страхавых плацяжоў.

### Месячная грашовая справаздача аб паступіўшых плацяжох.

§ 20. Па сканчэньні месяцу раённыя выканаўчыя камітэты складаюць па ўстаноўленай форме справаздачы па прыбытку і выдатку сум страхавых плацяжоў за мінулы месяц у трох экзэмплярах, з якіх адзін экзэмпляр пасылаюць Праўленьню Дзяржаўнага Страхаваньня БССР не пазьней 3-га дня наступнага месяца, другі экзэмпляр перадаюць страхавому агэнцтву і трэці экзэмпляр пакідаюць у сваіх справах. Да паказанай справаздачы Праўленьню Дзяржстраху далучаюцца дакумэнты, якія пацьвярджаюць перавод грошай на бягучы рахунак Праўленьня Дзяржаўнага Страхаваньня БССР, сплату камісійнай узнагароды і разьмер паштовых выдаткаў.

Сумы паказваюцца толькі за адпаведны месяц. Камісійная ўзнагарода, сплачаная за папярэдні месяц, паказваецца ў справаздачы асобна.

Плацяжы, здадзеныя страхавальнікамі ў касы іншых раённых выканаўчых камітэтаў, альбо паступіўшыя ў касу раённага выканаўчага камітэту ад страхавальнікаў іншых раёнаў, паказваюцца на адвароце месячнай справаздачы.

### Аб растрачаных сумах.

§ 21. Калі будуць выяўлены растраты сабраных сум акладных страхавых плацяжоў, то раённыя выканаўчыя камітэты аб кожным выпадку растраты складаюць акт у трох экзэмплярах. У акце павінна быць паказана, кім растрачаны грошы, абставіны растраты і растрачаная

сума, з падзелам на нядоімку, аклад і пеню. Адзін экзэмпляр акту перадаецца адпаведным органам для прыцягненьня вінаватых да адказнасьці, другі экзэмпляр—страхавому агэнцтву, а трэці экзэмпляр прыкладваецца да месячнай справаздачы, якая пасылаецце у Праўленьне Дзяржаўнага Страхаваньня.

Растрачаныя сумы паказваюцца ва ўвазе месячнай справаздачы.

Дадатак: Форма блянку месячнай справаздачы.

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР *Л. Бунін.*

Нам. Старшыні Кіраўніцтва Дзяржаўнага Страхаваньня БССР *З. Стахеяў.*

4 верасьня 1929 г.

---

*Дадатак.*
Форма.

..............................................

**РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ**

..............................................акругі

**У Праўленьне Дзяржаўнага Страхаваньня БССР.**

Копія....................раённаму Страхагэнцтву.

МЕСЯЧНАЯ СПРАВАЗДАЧА

аб прыбытку і выдатку акладных страхавых плацяжоў

За..............................месяц 19..........г.

| ПРЫБЫТАК | Сума | | ВЫДАТАК | Сума | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Руб. | к. | | Руб. | к. |
| Паступіла: | | | 1. Здадзена для пераводу ў Белдзяржстрах . . . . . . . . . | — | — |
| | | | 2. Выдадзена Страхавому Агэнцтву. | — | — |
| 1. Нядоімкі . . . | — | — | 3. Атрымана ўзнагароды за збор за справаздачны месяц . . . . | — | — |
| 2. Акладу . . . | — | — | 4. Атрымана ўзнагароды за збор за мінулы месяц . . . . . . . | — | — |
| 3. Пені . . . . | — | — | 5. Заплачана за перасылку грошай | — | — |
| | | | 6. Заплачана за тэлеграмы . . . | — | — |
| 4. . . . . . . . | — | — | 7. . . . . . . . . . . . . . . . | — | — |
| Разам . . | — | — | Разам . . . | — | — |

*Увага.* Згодна даданага да гэтага акту выкрыта растраты на ..........р.........к., з якіх нядоімкі..........р........к., акладу..........р........к. і пені ..........р.........к.

*Дадатак:*..............................................

№..............................

„ “..............................19..........г.

Старшыня Райвыканкому (подпіс).

Загадчык Райфінчасткі (подпіс).

УВАГА:

**1. Аб сумах, паступіўшых ад страхавальнікаў іншых раёнаў.**

У рахунак паказаных у гэтай справаздачы сум атрымана ад страхавальнікаў.......раёну: нядоімкі.......руб.......кап., акладу.......руб.......кап. і пені.......руб.......кап., а разам .......руб.......кап.

**2. Аб сумах, унесеных страхавальнікамі ў касы іншых райвыканкомаў.**

Звыш паказаных у гэтай справаздачы сум атрымана ад....... .......раённага выканаўчага камітэту рэестраў на суму.......руб. .......кап., з якіх нядоімкі.......руб.......кап., акладу.......руб. .......кап. і пені.......руб.......кап.

„ “.......19.......г.

Загадчык Фінчасткі

Касір

---

## 9. Пастанова Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

### пра зьмену тэрмінаў паляваньня на вавёрак, зайцоў і лісаў.

Народны Камісарыят Земляробства БССР на адмену п. „а“ § 9 „Правіл паляваньня на тэрыторыі БССР“ (Бюл. СНК БССР 1927 г. № 17) і п. „д“ § 10 тых-жа Правіл пастанаўляе:

1) Дазволіць паляваньне на вавёрак і куніц з 1 сьнежня г. г. да 15 лютага 1930 г.

2) Устанавіць з 1929 г. тэрмін паляваньня на зайцоў і лісаў з 15 кастрычніка па 15 лютага.

Народны Камісар Земляробства БССР *П. Рачыцкі.*

10 верасьня 1929 г.

---

## 10. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

### пра парадак скарыстаньня крэдытаў на дарожныя выдаткі ў лясьніцтвах.

*Акруговым зямельным аддзелам і лясьніцтвам БССР.*

Дзяржфінкантролем пры рэвізіях зазначаны выпадкі скарыстаньня ў лясьніцтвах крэдытаў на дарожныя выдаткі не па прызначэньні; напрыклад, адчыненыя крэдыты на дарожныя выдаткі без залежнасьці ад выездаў падзяляюцца паміж лясьнічым і яго намесьнікам, як дадатковыя да пэнсіі асыгнаваньні.

Адзначаючы гэта, Народны Камісарыят Земляробства БССР прапануе скарыстоўваць крэдыты на дарожныя выдаткі, якія адчыняюцца ў распараджэньне лясьніцтваў, непасрэдна па прызначэньні і выключна на камандыроўкі працаўнікоў лясьніцтваў.

Народны Камісар Земляробства БССР *П. Рачыцкі.*

Галоўны Бухгальтар НКЗ БССР *Бэрман.*

10 верасьня 1929 г.
№ 14.

---

## 11. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства БССР пра складаньне плянаў працы.

*Акруговым Зямельным Камісіям.*

На падставе агульнага палажэньня пра арганізацыю і парадак работ у дзяржаўных установах, зацьверджанага НК РСІ (Бюл. СНК № 2 за 1929 г., стар. 5), Народны Камісарыят Земляробства БССР прапануе акруговым зямельным камісіям скласьці пляны сваёй працы на наступны 1929-30 аперацыйны год.

Распрацаваць трэба агульны плян на ўвесь год і каляндарныя пляны паквартальна.

Пры складаньні агульнага пляну зямельная камісія павінна пабудаваць сваю работу так, каб яна ўсямерна дапамагала аграмаджаньню дробных сялянскіх гаспадарак у калгасы, пашырэньню пасеўных плошчаў і падняцьцю ўраджайнасьці. Работа зямельных камісій павінна быць прасякнута клясавай сутнасьцю зямельнай палітыкі і накіравана на абарону інтарэсаў беднаты, адвод ёй лепшых зямель, абрэзку буйных працоўных гаспадарак і адабраньне зямлі ад гаспадарак непрацоўнага тыпу. У зьвязку з гэтым зямельная камісія ў сваёй рабоце павінна змагацца з усякімі парушэньнямі падстаў нацыяналізацыі зямлі, а таксама з падзеламі індывідуальных гаспадарак, не дапушчаць утварэньня дробных пасёлкаў і сачыць за тым, каб пры землянадзяленьні жорстка захоўвалася клясавая лінія.

Канкрэтна-ж пры складаньні агульнага пляну ў ім, найперш, трэба паказаць пра ступень выкананьня пляну за папярэдні год і даць тлумачэньне аб прычынах невыкананьня паасобных работ.

Прыняўшы пад увагу працу мінулага году, астатак нявырашаных спраў і меркаваньні аб паступленьні новых спраў, належыць далей дакладна паказаць, якая праца павінна быць праведзена ў наступным годзе. У паасобку, трэба вылічыць, колькі мяркуецца разглядзець спраў спрэчна-зямельных, земляўпарадчых, мэліарацыйных і лесаўпарадчых і колькі судовых пасяджэньняў прыдзецца для гэтага назначыць на кожны тыдзень.

Пры ўстанаўленьні ліку судовых пасяджэньняў трэба ўлічыць аскарджаныя справы раённых зямельных камісій, справы, якія акруговая зямельная камісія разглядае ў якасьці першай інстанцыі, і справы, якія паступаюць з Асобай Калегіі Вышэйшага Кантролю для новага разгляду, а таксама мець на ўвазе процант адкладу спраў.

Апроч судовых пасяджэньняў камісіі ў акруговым горадзе, плянам павінны быць прадугледжаны выезды на месцы для вырашэньня паасобных спраў і выяздныя сэсіі ў найбольш дальныя раёны, якія даюць шмат судовых спраў.

Патрэбны час павінен быць вылучан па пляну выездам для інструктаваньня і рэвізіі раённых зямельных камісій і судоў пры сельскіх саветах, а таксама скліка期ньню нарад працаўнікоў зямельнага суду для абмеркаваньня тых пытаньняў зямельнага права, што паўстаюць у практыцы. Кіраўніцтву работай раённых зямельных камісій і судоў пры сельскіх саветах, вывучэньню іх памылак і выпраўленьню гэтых памылак павінна быць удзелена вялікая ўвага. У пляне працы трэба прадугледзіць абагуленьне матарыялаў рэвізіі і складаньне дырэктыўных лістоў з пералічэньнем памылак і недахопаў у рабоце зямельнага суду і з паказаньнем спосабаў іх выпраўленьня.

Агульным плянам павінна быць прадугледжана правядзеньне грамадзкай работы. Акруговая зямельная камісія павінна рабіць справа-

здачы перад шырокімі коламі працоўных, ставячы даклады аб сваёй рабоце на сялянскіх сходах і канфэрэнцыях, галоўным чынам у часы выязДных сэсій, а таксама на сходах чырвонаармейцаў і рабочых у горадзе. Даклады гэтыя павінны быць зьвязаны з тлумачэньнем зямельнага законадаўства з дачаю адказаў на пытаньні ўдзельнікаў сходу. Разам з тым акруговая зямельная камісія і ў сваёй бягучай працы павінна тлумачыць наведвальнікам сутнасьць зямельнай палітыкі і ўсю карысьць аграмаджаньня іх гаспадарак.

У пляне працы павінна прымацца пад увагу таксама работа, зьвязаная з друкам. Кожная заметка, якая ў газэтах асьвятляе працу зямельнага суду, павінна быць дакладна праверана з прыняцьцем захадаў для зьнішчэньня заўважаных недахопаў і з абавязковым паведамленьнем рэдакцыі газэты аб тым, што зроблена. У друку-ж акруговая зямельная камісія павінна пэрыядычна асьвятляць работу зямельнага суду як зьвесткамі справаздачнага характару, так і апісаньнем найбольш цікавых спраў, якія маглі-б папулярызаваць асновы землякарыстаньня і земляўпарадкаваньня.

Нарэшце, агульным плянам павінна быць прадугледжана работа па складаньню квартальных справаздачных картак пра рух спраў і ход выкананьня рашэньняў, а таксама гадовай справаздачы аб рабоце судоў пры сельскіх саветах, раённых і акруговых зямельных камісій. Гадовая справаздача, апроч лічбавых зьвестак, павінна даць ацэнку работы зямельнага суду, вывады аб тым удзеле, які названы суд прыняў у рэканструкцыі сельскай гаспадаркі праз яе ўзбуйненьне і аграмаджаньне, і прапановы аб захадах для далейшага палепшаньня яго работы.

Апроч агульнага пляну, акруговая зямельная камісія складае паквартальна каляндарныя пляны судовых пасяджэньняў з паказаньнем дзён і ліку спраў, якія кожная паасобку раённая зямельная камісія можа прызначыць да слуханьня па скаргах на яе рашэньні, а таксама дзён разгляду ўсіх іншых спраў.

Агульны плян працы на час з 1 кастрычніка 1929 г. да 1 кастрычніка 1930 г. акруговая зямельная камісія павінна прыслаць у Асобую Калегію Вышэйшага Кантролю не пазьней 1 лістапада гэтага году.

Агульныя пляны працы раённымі зямельнымі камісіямі складаюцца па форме і на падставах, якія павінны быць устаноўлены акруговаю зямельнаю камісіяй.

Народны Камісар Земляробства БССР *П. Рачыцкі.*

Старшыня Асобай Калегіі Вышэйшаго Кантролю *Зыбко.*

16 верасьня 1929 г.
№ 15.

---

## 12. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

**пра стварэньне калгасаў на тэрыторыі хутарскога землякарыстаньня і пра выдзел калгасаў з складу земляўпарадкаваных пасёлкаў.**

*Усім акруговым зямельным аддзелам.*

Практыка работы паказала, што пры стварэньні калгасаў на тэрыторыі хутарскога землякарыстаньня, а таксама пры выдзеле калгасаў з складу земляўпарадкаваных пасёлкаў альбо вёсак узьнікае цэлы шэраг пытаньняў, якія зямельныя органы на мясцох вырашаюць па рознаму.

Для ўстанаўленьня аднолькавай практыкі і стварэньня больш спрыяючых умоў па арганізацыі калгасаў, Народны Камісарыят Земляробства БССР, у дадатак да раней дадзеных дырэктыў, прапануе:

1. Пры арганізацыі калактываў з хутароў, што земляўпарадкаваны як да рэвалюцыі, таксама і пры Савецкай уладзе, трэба ўжыць усе захады да таго, каб дабіцца максымальнага ўцягненьня сумежных бядняцка-серадняцкіх хутарскіх землякарыстальнікаў і пасьля скарыстаньня ўсіх магчымасьцяй дазваляць перасяленьне часткі паасобных двароў, якія не жадаюць увайсьці ў калактыў, што арганізуецца, і якія сваім землякарыстаньнем будуць перашкаджаць мэтазгоднай арганізацыі тэрыторыі калактыву. Перасяленьне гэтых двароў можа быць дапушчана як на іншыя месцы той дачы, што земляўпарадкоўваецца, так і на паасобны зямельны запасны фонд, які ёсьць у гэтым раёне, прычым перасяленьне робіцца за сродкі не жадаючых увайсьці ў калгас.

2. Пры перасяленьні гаспадарак, землякарыстаньне якіх уваходзіць у межы праектуемага калгасу, якія не жадаюць увайсьці ў калгас, трэба ўлічваць магчымасьць прадастаўленьня двару, што перасяляецца, зямлі той гаспадаркі, якая ўваходзіць у калгас, а таксама прыняць усе захады да стварэньня ўмоў, спрыяючых дабравольнаму абмену будынкамі з выплатай розьніцы кошту будынкаў грашыма аднэй стараной другой; пры гэтым, абвязкова трэба забараняць інтарэсы бядняцкіх гаспадарак.

3. Двары, што перасяляюцца, павінны забясьпечвацца на новым месцы зямлёй у разьмеры свайго фактычнага землякарыстаньня, калі яно было ня звыш нормы, якая ўстаноўлена абежнікам НКЗ БССР за 18 мая 1929 г. № 8.

4. Пры арганізацыі калактываў на тэрыторыі, якая была земляўпарадкавана раней (на хутарох і пасёлках) трэба максымальна скарыстаць актыўнасьць бядняцка-серадняцкіх мас пры падняцьці імі пытаньня пра правядзеньне паўторнага земляўпарадкаваньня на землях, якія ўваходзяць у даную тэрыторыю, арганізоўваючы пры гэтым дачу разьмеркаваньня. Выдаткі на правядзеньне паўторнага земляўпарадкаваньня павінны спаганяцца на агульных падставах.

5. Пры выдзеле калгасаў з вёскі патрэбна абавязкова земляўпарадкаваць і астатнюю частку насельніцтва. Выключэньне дазваляецца толькі ў тых выпадках, калі пасьля выдзелу калгасаў не стварылася заблытанасьці ў землякарыстаньні.

6. Калі частка двароў з земляўпарадкаваных пасёлкаў альбо з малых вёсках пажадаюць арганізаваць калактыў, то такі калактыў магчыма стварыць як адчынены калгас, гэта значыць, сядзібы ўсіх двароў застаюцца на месцы, усе пахатныя ўжыткі разьбіваюцца на шматпольле і ў кожным полі гаспадаркам, якія не ўваходзяць у калактыў, адводзіцца па аднэй паласе з тым, каб паасобныя палосы адводзіліся да аднаго месца пры знадворных межах.

7. У выпадках, калі пры земляўпарадкаваньні калактыву колькасьць зямлі данага населенага пункту ня можа забясьпечыць надзяленьне зямлёй гаспадарак, што ўвайшлі ў калактыў па ўстаноўленых для данага віду землякарыстальнікаў нормах, то дазваляецца павялічэньне землязабясьпечанасьці калактыву за кошт заможных гаспадарак, з тым, каб апошнім была дадзена зямля з запаснага фонду.

8. Калі пры выдзеле калактыву здарацца выпадкі разгалосься паміж паасобнымі членамі двара данай вёскі па пытаньню аб выбары форм землякарыстаньня, дазваляецца выдзел з двара часткі членаў

яго, якія жадаюць увайсьці ў склад каляктыву, што земляўпарадкоўваецца, з тэй доляй зямлі, якая ім прылічаецца.

9. Землі перасяленцаў, якія паступаюць у запасны фонд пасьля сканчэньня тэрміну арэнды, пры земляўпарадкаваньні скарыстоўваюцца ў першую чаргу для забясьпечаньня гаспадарак, што ўваходзяць у склад новага каляктыву, а таксама і для ўзбуйненьня тых каляктываў, што існуюць.

Калі тэрмін арэнды ня скончыўся і арандатары не ўваходзяць у склад каляктыву, дык зямля перасяленца ўключаецца ў склад зямлі каляктыву зверх устаноўленых норм, прычым правы і абавязкі па арэндным дагаворы мэханічна пераходзяць да праўленьня каляктыву, якое праводзіць з арандатарамі ўзаемны разрахунак.

У выпадку звароту перасяленца да сканчэньня тэрміну арэнды і нежаданьня перасяленца ўвайсьці ў склад каляктыву, яму можа быць адведзена яго доля зямлі пры наліччы фонду.

10. У адмену арт. 6 абежніка НКЗ за 22 чэрвеня 1927 г. № 28, уся зямля, што застаецца ад абрэзкі шматзямельных гаспадарак, залічваецца ў зямельны фонд і перадаецца каляктывам, якія існуюць і якія арганізоўваюцца.

11. Усё паказанае вышэй прыняць да выкананьня, а таксама паведаміць усе акруговыя і раённыя зямельныя камісіі і земляўпарадкавальнікаў.

Народны Камісар Земляробства БССР *П. Рачыцкі.*

За Кіраўніка Земляўпарадкоўчай групы НКЗ БССР *Гусман.*

26 верасьня 1929 г.
№ 16.

---

## 13. Абежнік народных камісарыятаў Юстыціі, Унутраных Спраў і Земляробства БССР

**аб унясеньні некаторых зьмен у інструкцыю НКЮ, НКУС і НКЗ „Аб засьведчаньні раённымі выканаўчымі камітэтамі і сельскімі і местачковымі саветамі зьдзелак, дагавароў і дакумэнтаў“ („Бюлетэнь СНК БССР“ за 1928 г. № 15).**

*Усім раённым выканаўчым камітэтам і сельскім і местачковым саветам.*

Унесьці ў Інструкцыю НКЮ, НКУС і НКЗ БССР аб засьведчаньні раённымі выканаўчымі камітэтамі і сельскімі і местачковымі саветамі зьдзелак, дагавароў і дакумэнтаў наступныя зьмены:

1) Увагу да § 1-га, літ. „Б“, назваць „Увага 1“.

2) Параграф 1-ы, літ. „Б“, дапоўніць увагай 2-й наступнага зьместу: „Увага 2. Дагаворы і ўгоды на адчужэньне будынкаў сельскія і местачковыя саветы маюць права пасьведчваць толькі ў тых выпадках, калі будынкі, якія адчужаюцца, знаходзяцца на іх тэрыторыі.“

3) Параграфы 14, 15 і 16 запісаць у наступнай рэдакцыі:

„14. Пры засьведчаньні па жаданьні старон угод на адчужэньне будынкаў, якія знаходяцца на землях, дадзенных законным парадкам у карыстаньне працоўных землякарыстальнікаў, не для раскіданьня або пераносу, а для скарыстаньня іх на месцы, сельскія і местачковыя саветы патрабуюць: а) калі аб прыналежнасьці будынку прадаўцу няма адпаведных адзнак у падворных сьпісах—прадстаўленьня довадаў аб прыналежнасьці яму будынку, як, напрыклад, ранейшай

угоды аб набыцьці будынку шляхам куплі-продажу, альбо акту разьдзелу маемасьці двара, учыненага да забароны разьдзелу і зарэгістраванага належным парадкам, альбо акту абсьледваньня на месцы і г. д.; б) прадстаўленьня даведкі або пастановы зямельных органаў аб перадачы пакупшчыку зямлі працоўнага карыстаньня, на якой знаходзіцца будынак і в) падпіску членаў двара аб згодзе на адчужэньне будынку.

*Увага.* Для засьведчаньня ўгод аб адчужэньні паказаных у гэтым парагарафе будынкаў для раскіданьня і пераносу ня трэба ніякіх дакумэнтаў.

„15. Пры засьведчаньні ўгод аб адчужэньні будынкаў, якія знаходзяцца не на землях працоўнага карыстаньня, сельскія і местачковыя саветы патрабуюць: а) даведкі раённага выканаўчага камітэту альбо адпаведнага органу, у якім зарэгістраваны будынак, аб прыналежнасьці будынку прадаўцу, а калі гэты будынак ужо куплены, то другога экзэмпляру натарыяльна пасьведчанай угоды аб набыцьці будынку або выпісу натарыяльнага акту, або акту аб набыцьці будынку з публічных таргоў, з адзнакамі на гэтых дакумэнтах аб зарэгістраваньні іх у належных органах; б) даведкі адпаведнай натарыяльнай канторы аб арыштах, якія ляжаць на будынку (гэтая даведка мае сілу на працягу трох дзён ад дня выдачы яе з даданьем да гэтага тэрміну часу, патрэбнага на дастаўку даведкі); в) даведкі адпаведнага органа, у якім зроблена рэгістрацыя будынку, аб тым, што ад імя прадаўца, яго супруга і няпоўнагодніх дзяцей не рабілася адчужэньняў на працягу трох напярэдніх гадоў; г) даведкі таго-ж органу аб тым, што пакупшчык, яго супруг і няпоўнагоднія дзеці не ўладаюць будынкам у данай мясцовасьці і д) даведкі аб ацэнцы будынку пры застрахаваньні яго.

16. Другі экзэмпляр натарыяльна-пасьведчанай угоды куплі-продажу будынку, калі апошні прадаецца для скарыстаньня на месцы, падаецца ў сельскі ці местачковы савет альбо ў раённы выканаўчы камітэт для зарэгістраваньня будынку на імя пакупшчыка, пры гэтым, калі прадaны будынак знаходзіцца на зямлі працоўнага карыстаньня, рэгістрацыя адчужэньня робіцца сельскім альбо местачковым саветам праз учыненьне адпаведных адзнак у падворных сьпісах.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *П. Валасевіч.*
Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*
Нам. Народнага Камісара Землябробства БССР *К. Масюкоў.*

15 ліпеня 1929 г.
№ 50.

---

## 14. Дадатак да таксы збораў за засьведчаньне раённымі выканаўчымі камітэтамі, сельскімі і местачковымі саветамі зьдзелак, дагавароў і дакумэнтаў.

Пералік выняткаў па зборах за засьведчаньне раённымі выканаўчымі камітэтамі, сельскімі і местачковымі саветамі зьдзелак, дагавароў і дакумэнтаў:

*I. Установы і асобы, якія звальняюцца ад збораў:*

1. Камітэты сялянскіх таварystваў узаемадапамогі.
2. Таварыства дапамогі ахвярам інтэрвэнцыі, яго органы і ўсе грамадзяне па афармленьні дакумэнтаў, якія накіроўваюцца таварыству дапамогі ахвярам інтэрвэнцыі і яго органам.

3. Асобы, якія прызнаны судом, паводле п. „в“ арт. 43 ГПК, нямаючымі сродкаў для аплаты пошлін па судовых справах, пры засьведчаньні дакумэнтаў і копій для прыкладаньня да спраў, па якіх адбылося такое пастанаўленьне суду.

*II. Дакумэнты, якія звальняюцца ад збораў:*

1. Дакумэнты дабравольных пажарных арганізацый, зьвязаныя з афармленьнем арганізацыі іх.
2. Дакумэнты па справах, якія тычацца адносін грамадзян да прызыву і прахаджэньня вайсковай службы.
3. Дакумэнты па справах спагнаньня ўсялякага роду заработнай платы і сродкаў на ўтрыманьне.
4. Дагаворы па дзяржаўнай насеннай пазычцы, якія робяцца беспасрэдна з насельніцтвам.
5. Даверанасьці на атрыманьне і спагнаньне заработнае платы, а таксама пэнсіі і дапамогі па сацыяльным забясьпечаньні.
6. Даверанасьці, якія выдаюцца на атрыманьне грашовае і пасылачнае карэспандэнцыі.
7. Даверанасьці на атрыманьне тэлеграм, абвестак і наогул усякай карэспандэнцыі, а таксама давярыцельныя надпісы на паштовых абвестках, дублікатах і г. д.
8. Засьведчаньне подпісаў і асобы атрымальнікаў усякай карэспандэнцыі.
9. Засьведчаньне копій дакумэнтаў, якія выдаюцца пры паступленьні ў навучальныя ўстановы і ў органы сацыяльнай забясьпекі.
10. Засьведчаньне подпісаў на заявах, якія падаюцца па крымінальных справах і па справах аб сельска-гаспадарчым падатку.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *Я. Бутар.*

За Народнага Камісара Фінансаў БССР *Кардашэнка.*

5 ліпеня 1929 г.

---

## 15. Пастанова Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

**пра зьмену інструкцыі НКУС БССР за 24/IV 1929 г. № 50 „Пра парадак выдачы дазволаў на заказ пячатак з дзяржаўным гэрбам, пра выкананьне заказаў, пра зьнішчэньне пячатак з дзяржгэрбам і пра справаздачнасьць гравэрных майстэрняў“ (Бюл. СНК БССР 1929 г. № 7).**

Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР пастанаўляе арт. 12 Інструкцыі НКУС БССР за 24 красавіка 1929 г. „Пра парадак выдачы дазволаў на заказ пячатак з дзяржаўным гэрбам пра выкананьне заказаў, пра знішчэньне пячатак з дзяржгэрбам і пра справаздачнасьць гравэрных майстэрняў“ (Бюл. СНК БССР 1929 г. № 7) запісаць у наступнай рэдакцыі:

„12. За прыйманьне і выкананьне майстэрнямі заказаў на выраб пячатак з дзяржаўным гэрбам без адпаведнага дазволу прыватныя ўласьнікі майстэрняў прыцягваюцца да адказнасьці ў крымінальным парадку, паводле арт. 152 Крым. Код. БССР, а загадчыкі дзяржаўных

майстэрняў—паводле арт. 202 Крым. Код. БССР, а за непадачу адбіткаў зробленых майстэрнямі пячатак падлягаюць адказнасьці ў адміністрацыйным парадку паводле п. 6 арт. 6 пастановы ЦВК і СНК БССР за 23/II 1929 г."

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

12 верасьня 1929 г.

---

Узгоднена з ДПУ—№ 20099 за 3/VII-1929 г.
і з НКЮ БССР—№ 42/н 109 за 19/VII 1929 г.

## 16. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

**пра ўжываньне пастановы СНК БССР за 17 мая 1929 г. „Пра фатаграфічныя, кінематаграфічныя і іншыя здымкі на тэрыторыі БССР" (З. З. БССР 1929 г. № 19, адз. 1, паст. 113).**

*I. Аб гандлі фатаграфічнымі апаратамі.*

1. Прадпрыемствы па гандлю фатаграфічнымі апаратамі могуць адчыняцца прыватнымі асобамі і прыватнымі арганізацыямі толькі пасьля атрыманьня на гэта адпаведнага дазволу ад акруговага адміністрацыйнага аддзелу, калі прадпрыемства мае быць адчынена ў акруговым горадзе, і ад кіраўніцтва раённай міліцыі, калі прадпрыемства адчыняецца ў межах раёну.

2. Фінансавыя органы выдаюць рэгістрацыйныя дакумэнты на адчыненьне гандлю фатаграфічнымі апаратамі толькі тады, калі будзе прадстаўлены дазвол на адчыненьне гандлю.

3. Аб выдачы дазволу на адчыненьне гандлю фатаграфічнымі апаратамі зацікаўленымі асобамі падаецца ў належны адміністрацыйны аддзел альбо кіраўніцтва раённай міліцыі заява, аплачаная гэрбавым зборам у 2 руб. (1 р. заява і 1 р. адказ), якая павінна зьмяшчаць у сабе зьвесткі аб тым, хто просіць дазволу і дзе мае быць адчынены гандаль.

4. Пры падачы заявы аб выдачы дазволу на адчыненьне гандлю фатаграфічнымі апаратамі заяўнікам запаўняецца анкета ў 2-х паасобніках на ўласьнікаў альбо адказных асоб гандлёвага прадпрыемства, паводле далучанай да гэтага формы № 1. Аб зьменах адказных асоб уласьнікам прадпрыемства безадкладна паведамляецца ў адмаддзел, альбо райміліцыю з падачаю анкет па форме № 1 у 2-х экз.

5. Атрымаўшы заяву аб выдачы дазволу на адчыненьне гандлю фатаапаратамі, адміністрацыйны аддзел павінен на працягу месяца разглядзець яе, праверыць анкету і або выдаць дазвол на права адчыненьня прадпрыемства, або адмовіць у выдачы яго.

6. Калі на працягу 2-х месяцаў ад дня выдачы дазволу прадпрыемства ня будзе адчынена, дазвол губляе сілу і можа быць адноўлены на агульных падставах.

7. Прадпрыемствы па гандлю фатаапаратамі могуць перадавацца ад аднэй асобы альбо арганізацыі другой асобе альбо арганізацыі толькі тады, калі арганізацыя ці асоба, якой прадпрыемства перадаецца, атрымае прадугледжаны гэтай інструкцыяй дазвол. Аб перамене адрасу прадпрыемства ўласьнік альбо адказная асоба прадпрыемства павінна безадкладна паведаміць месца рэгістрацыі.

*2. Аб рэгістрацыі асоб, што займаюцца фатаграфіяй і аб рэгістрацыі дзяржаўных, каперацыйных арганізацый і прыватных асоб, што гандлююць фатаапаратамі.*

8. Рэгістрацыі, прадугледжанай у п. 5 Пастановы СНК (З.З. БССР 1929 г. № 19, аддз. 1, паст. 113), падлягаюць існуючыя прадпрыемствы і асобы, якія займаюцца фатаграфіяй, у 7-дзённы тэрмін, першыя—ад дня апублікаваньня інструкцыі, а ўноў узьнікаючыя прадпрыемствы—ад дня адчыненьня прадпрыемства, як:

а) уласьнікі прыватных фатаграфій і калактывы фотографаў.

б) асобы, якія займаюцца фатаграфіяй як промыслам, хоць-бы яны і ня мелі ў сваім веданьні спэцыяльных памяшканьняў для фатаграфаваньня;

в) фата-аматары, калі яны не зьяўляюцца членамі таварыства фотографаў аматараў;

г) дзяржаўныя і каперацыйныя арганізацыі, якія гандлююць фатаапаратамі;

д) прыватныя прадпрыемствы па гандлю фатаапаратамі.

9. Рэгістрацыя праводзіцца па месцы знаходжаньня прадпрыемства, альбо месцы сталага пражываньня асобы, якая займаецца фатаграфіяй, у акруговых гарадох—у акруговым адміністрацыйным аддзеле, а на раёнах—у раённай міліцыі.

10. Для рэгістрацыі павінны быць прадстаўлены ў адмаддзел альбо райміліцыю заява і асобная анкета па далучаных да гэтага формах—на прыватных асоб—№ 1, а на дзяржаўныя і каперацыйныя арганізацыі—№ 2.

Дзяржаўныя і каперацыйныя арганізацыі ў выпадку зьмены адказнай за прадпрыемства асобы, паведамляюць месцы рэгістрацыі з прадстаўленьнем анкеты па ф. № 2 у двох паасобніках. Месца рэгістрацыі паведамляецца таксама аб кожнай зьмене адрасу прадпрыемства.

Усе прыватныя асобы, паказаныя ў п. п. „а“, „б“, „в“ і „д“, артыкулу 8, пры перамене свайго хатняга адрасу, альбо адрасу прадпрыемства паведамляюць безадкладна месца рэгістрацыі.

11. Аб рэгістрацыі прадпрыемства альбо асобы адмаддзелам і райміліцыяй выдаецца адпаведная даведка па форме № 3.

12. Заявы аб рэгістрацыі аплачваюцца гэрбавым зборам у разьмеры 2 руб. (1 р. заява і 1 рубель адказ).

Не аплачваюць заявы гэрбавым зборам установы, арганізацыі і прадпрыемствы, паказаныя ў пераліку выняткаў з Дзяржаўнага гэрбавага збору (З.З. СССР 1927 г. № 55, арт. 553).

*3. Аб фатаграфічных здымках.*

13. Рабіць фатаграфічныя здымкі, за выключэньнем пералічаных у арт. арт. 1, 2, 3 і 4 пастановы СНК за 17/V 1929 г. (З.З. БССР 1929 г. № 19, адз. 1, паст. 113), дазваляецца:

1) асобам, пералічаным у п. п. „а“, „б“ і „в“ артыкулу 8 гэтае інструкцыі, пры ўмове, калі гэтыя асобы зарэгістраваны ў адмаддзеле альбо райміліцы парадкам, устаноўленым інструкцыяй; 2) фата-аматарам—членам таварыства фотографаў-аматараў; 3) фотографам дзяржаўных устаноў і прадпрыемстваў.

14. Пералічаныя ў арт. 13 асобы маюць права рабіць фатаграфічныя здымкі на незабароненай тэрыторыі і незабароненых аб‘ектаў, як у месцы рэгістрацыі альбо месцы сталага пражываньня і службы, так

і ў іншых мясцовасьцях БССР, але ў апошнім выпадку трэба зарэгістравацца ў адпаведным адміністрацыйным аддзеле альбо райміліцыі.

15. Асобы, прыбываючыя з іншых саюзных рэспублік для фатаграфаваньня на тэрыторыю БССР, павінны зарэгістравацца ў адпаведным адміністрацыйным аддзеле альбо райміліцыі парадкам, прадугледжаным гэтай інструкцыяй.

16. Фатаграфічныя, кінематаграфічныя, вокамерныя, панарамныя і інструмэнтальныя здымкі прадметаў, пералічаныя ў арт. арт. 1, 2, 3 і 4 пастановы СНК БССР за 17/V 1929 г. (З.З. БССР, 1929 г. № 19, адз. 1, паст. 119), могуць вытварацца толькі з дазволу адпаведных органаў і з захаваньнем умоў, пералічаных у гэтых артыкулах пастановы. Пры гэтым, па патрабаваньню адпаведных установ негатывы здымкаў павінны здавацца ў гэтыя ўстановы.

17. Нагляд за ажыцьцяўленьнем пастановы СНК за 17/V 1929 г. (З.З. БССР 1929 г., адз. 1, № 19, паст. 113), і гэтай інструкцыі ўскладаецца на адміністрацыйныя аддзелы і органы міліцыі на раёнах.

Нам. Народнага Камісара Унутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

16 верасьня 1929 г.
№ 2—43.

---

*Дадаткі.*

*Форма № 1.*

(Да п. п. 4 і 10 інструкцыі).

## Анкета для прыватных асоб і прадпрыемстваў.

1. Прозьвішча, імя і імя па бацьку . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
2. Час і месца нараджэньня . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
3. Пахаджэньне . . . . . . . . . . . . . . . .
4. Хатні адрас . . . . . . . . . . . . . . . .
5. Маемаснае становішча . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
6. Адукацыя . . . . . . . . . . . . . . . .
7. Асноўная прафэсія і род заняткаў . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
8. Адносіны да майстэрні ці прадпрыемства (уласьнік, кампаньён, адказны кіраўнік) . . . . . . . . . . . .
9. Адрас майстэрні ці прадпрыемства . . . . . . . .
10. Ці зьяўляецеся пайшчыкам, кампаньёнам, акцыянэрам і да г. п. якога-небудзь прамысловага ці гандлёвага прадпрыемства і якога
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
11. Да якой палітычнай партыі належыце, час уступленьня, № сяброўскага білету . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
12. Ці прыцягваліся да суду і сьледзтва, ці падпадалі адказнасьці ў судовым ці адміністрацыйным парадку, дзе, калі і за што . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
13. Ці займалі пасьля рэвалюцыі якія-небудзь выбарныя пасады, якія, дзе і калі . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Подпіс . . . . . . . . . . .

*Форма № 2.*

(Да п. 4 інструкцыі).

## Анкета на прадпрыемства.

1. Назва прадпрыемства . . . . . . . . . . . . .
2. Дакладны адрас прадпрыемства . . . . . . . . .
3. Пад чыім ведамам знаходзіцца прапрыемства . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Адказная за прадпрыемства асоба.*

1. Прозвішча, імя і імя па бацьбу . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
2. Пахаджэньне . . . . . . . . . . . . .
3. Хатні адрас . . . . . . . . . . . . .
4. Партыйнасьць . . . . . . . . . . . . .
5. Калі член саюзу, дык якога . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
6. Ці прыцягваўся да суду і сьледзтва, ці падпадаў адказнасьці ў судовым ці адміністрацыйным парадку, дзе, калі і за што . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
7. Апошняе месца службы і чаму яе пакінулі . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Подпіс . . . . . . . . . . . . .

---

*Форма № 3.*

## Даведка.

Прадпрыемства ці асоба . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Зарэгістравана ў . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . пад № . . . . . .
. . . . . . . . 19 . . г.

Подпіс . . . . . . . . . .

---

УЗГОДНЕНА:
Нам. Упаўнаважанага НК Шляхоў СССР
пры Ўрадзе БССР *Іваноў.*
Народны Камісар Фінансаў СССР *Бруханаў.*

## 17. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

**пра парадак выкананьня пастаноў (актаў) аб накладаньні штрафаў за парушэньне абавязковых пастаноў НК Шляхоў, а таксама за незаконнае скарыстаньне чыгуначнага і воднага транспарту.**

1. Пастановы (акты) аб накладаньні штрафаў за парушэньне абавязковых пастаноў НК Шляхоў па ўсіх відах транспарту (З. З. СССР 1928 г. № 36, арт. 325), а таксама за бязбілетны выхад на платформу чыгуначных станцый, за бязбілетны праезд у пасажырскім цягніку і за правоз ручнога багажу з парушэньнем устаноўленых на гэты прадмет

правілаў (З. З. СССР 1927 г., № 30, арт. 308), а таксама аб накладаньні штрафаў, устаноўленых за бязбілетны праезд на суднах „Саўгандльфлёту“ (З. З. СССР 1928 г., № 27, арт. 243) накіроўваюцца адміністрацыяй чыгуначных і водных шляхоў для выкананьня: пры пражываньні парушніка на тэрыторыі БССР у межах раёну—адпаведнай раённай міліцыі, а пры пражываньні парушніка ў астатніх мясцовасьцях—гарадзкому аддзяленьню міліцыі, а дзе яго няма, а таксама, калі невядома, у раёне якога аддзяленьня міліцыі пражывае парушнік—мясцоваму адміністрацыйнаму аддзелу.

2. У пастановах (актах) аб накладаньні штрафаў павінна быць паказана:

1) пасада і прозьвішча асобы, што складала пастанову (акт),
2) дата складаньня пастановы (акту),
3) за якое парушэньне накладзены штраф і дата парушэньня,
4) прозьвішча, імя і імя па бацьку і дакладны адрас асобы, на якую накладзены штраф,
5) сума штрафа і
6) подпіс асобы, што склала пастанову (акт).

Пастанова аб накладаньні штрафу за парушэньне абавязковай пастановы НК Шляхоў павінна, апроч таго, зьмяшчаць паказаньне, у які тэрмін і ў якія органы парушнік абавязан заплаціць накладзены на яго штраф і прадставіць квіток.

3. Ня выконваюцца пастановы (акты), складзеныя:
а) пасьля сканчэньня месячнага тэрміну з дня парушэньня,
б) з парушэньнем патрабаваньняў, прадугледжаных арт. 2 гэтай інструкцыі.

4. Атрымаўшы для выкананьня пастанову (акт) аб накладаньні штрафу, органы, пералічаныя ў арт. 1 гэтай інструкцыі, спаганяюць належныя сумы прымусовым парадкам, пры чым па пастановах аб накладаньні спагнаньня за парушэньне абавязковых пастаноў НК Шляхоў прымусовае спагнаньне выконваецца ў тым выпадку, калі ў працягу тэрміну, паказанага ў пастанове аб накладаньні штрафу, у органы, пералічаныя ў арт. 1-ым, не паступіць ад парушніка квітка аб уплаце накладзенага на яго штрафу.

5. Накладзеныя службовымі асобамі НК Шляхоў па пастановах (актах) паказаныя ў арт. 1 гэтай інструкцыі штрафы замене прымусовымі работамі не падлягаюць.

6. Падача парушнікам скаргі на вынесеную органам ці службовай асобай НК Шляхоў пастанову (акт) аб накладаньні штрафу не прыпыняе выкананьня гэтай пастановы (акту).

7. Прымусовае спагнаньне штрафаў ажыцьцяўляецца праз накіраваньне яго на маемасьць парушніка з прыстасаваньнем устаноўленых законам правіл аб маемасьці, на якую ня можа быць зьвернута спагнаньне па дзяржаўных падатках (З. З. СССР 1927 г., арт. 182 і 1928 г. № 117, арт. 739).

Накіраваньне спагнаньня на заработную плату парушніка забараняецца.

8. Выбар парадку прымусовага спагнаньня штрафу ў залежнасьці ад маемаснага становішча парушніка належыць органу, які выконвае пастанову (акт).

9. У тых выпадках, калі парушнік па паказанаму ў пастанове (акце) адрасу не пражывае і органу, які выконвае гэтую пастанову (акт), дакладнае месца пражываньня парушніка невядома, ніякага вышуку парушніка ня робіцца і справа спыняецца.

Дазваляецца перасылка пастаноў (актаў) для выкананьня ў іншыя, чым гэта паказана ў самой пастанове (акце), насельныя пункты, калі сума накладзенага штрафу перавышае 10 руб. і толькі ў тым выпадку, калі органу, які выконвае пастанову (акт) вядома дакладнае месца пражываньня парушніка.

10. Калі прышоўшаму для правядзеньня опісу маемасьці супрацоўніку міліцыі асоба, абавязаная заплаціць штраф, прад'явіць квіток аб уплаце штрафу ці пажадае заплаціць гэты штраф, супрацоўнік міліцыі абавязан атрымаць квіток або грошы, пры чым аб атрыманьні грашовых сум супрацоўнік міліцыі выдае адпаведны квіток.

11. Пры адсутнасьці ў парушніка маемасьці, на якую можна было-б зьвярнуць спагнаньне і немагчымасьці, такім чынам, спагнаць штраф, органы, пералічаныя ў арт. 1-ым гэтай інструкцыі, складаюць аб гэтыма адпаведную пастанову і справа падлягае спыненьню.

12. Калі орган, які выконвае пастанову (акт), на падставе прадстаўленых асобай, на якую накладзены штраф, дакумэнтаў або апраўдальных паказаньняў, установіць, што пастанова (акт) складзены памылкова, па прычыне злоснага скарыстаньня чужога імя, і асоба, на якую накладзены штраф, да гэтага парушэньня не датычыцца, то ён прымусовага спагнаньня ня выконвае і справа падлягае спыненьню.

13. Уся справа аб спагнаньні, накладзенага па пастановах (актах), паказаных у арт. 1-м гэтай інструкцыі, штрафу, павінна быць скончана не пазьней як 6 месяцаў з дня ўтварэньня парушэньня; пасьля сканчэньня гэтага тэрміну справа павінна быць спынена, незалежна ад таго, у якой ступені выкананьня даная справа знаходзіцца.

14. Ва ўсіх паказаных у гэтай інструкцыі выпадках спыненьня с праў аб накладаньні штрафаў, права спыненьня даецца органам, якія выконваюць пастанову (акт), пры чым ніякіх паведамленьняў аб спыненьні спраў органам і службовым асобам НК Шляхоў і „Саўгандальфлёту“ не пасылаецца.

15. Справы аб выкананьні пастаноў (актаў), паказаных у арт. 1-м гэтай інструкцыі, хаваюцца ў органе, які выконвае гэтыя пастановы (акты).

16. Спагнаныя па пастановах (актах), паказаных у арт. 1-м гэтай інструкцыі, грошы органы, якія выконваюць гэтыя пастановы (акты), перадаюць ва ўстановы Дзяржбанку і касы раённых выканаўчых камітэтаў, па меры іх накапленьня, але ня менш двох разоў у месяц, пры пісьмовым паведамленьні, у якім паказваецца, якая іменна сума спагнана за парушэньне абавязковых пастаноў НКШляхоў за незаконнае скарыстаньне чыгуначнага і воднага транспарту, а таксама якая сума спагнана за бязбілетны праезд на суднах „Саўгандальфлёту“.

Апроч таго, у паведамленьні павінна быць паказана:

1) што сумы, спагнаныя за парушэньне абавязковых пастаноў НК Шляхоў і за незаконнае скарыстаньне чыгуначнага транспарту, падлягаюць залічэньню ў даход скарбу па каштарысу НК Шляхоў, з наступным адлічэньнем ад іх 25% на карысьць міліцыі і

2) што з сум, спагнаных за бязбілетны праезд на суднах „Саўгандальфлёту“, 75% падлягаюць залічэньню на бягучы рахунак „Саўгандальфлёту“ у Праўленьні Дзяржбанку ў Маскве, а 25% адлічаюцца на карысьць міліцыі.

17. З паступіўшых ва ўстановы Дзяржбанку непасрэдна ці праз касы раённых выкан. камітэтаў сум спагнаных органамі міліцыі за парушэньне абавязковых пастаноў НК Шляхоў і за незаконнае скарыстаньне чыгуначнага транспарту ўстановы Дзярбанку і фінаддзелы адлічаюць устаноўленым парадкам 25 проц. для залічэньня на бягучы

рахунак начальнікаў акруговых адміністрацыйных аддзелаў, у парадку пастановы СНК БССР за 23/I—1929 г. (З. З. БССР № 3, аддз. I, паст. 19). Паказаньні аб тым, на чый бягучы рахунак павінны быць залічаны гэтыя адлічэньні, робяцца ў пісьмовым паведамленьні, пры каторым грошы здаюцца (арт. 16).

18. З паступіўшых ва ўстановы Дзяржбанку і касы раён. вык. камітэтаў сум за бязбілетны праезд на суднах „Саўгандальфлёту“ ўстановы Дзяржбанку 75 проц. перасылаюць у Праўленьне Дзяржбанку ў Маскву для залічэньня на бягучы рахунак „Саўгандальфлёту“, а 25 проц. залічаюць на бягучыя рахункі паказаных у арт. 17 начальнікаў адмаддзелаў.

19. Сумы, залічаныя на бягучы рахунак адпаведных начальнікаў адміністрацыйных аддзелаў, выдаткоўваюцца распараджэньнем гэтых начальнікаў у парадку пастановы СНК БССР за 23/I 1929 г. (З. З. БССР № 3, аддз. I, паст. 19).

Нам. Народнага Камісара
Ўнутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

17 верасьня 1929 г.
№ 64.

---

## 18. Пастанова Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

**пра дапаўненьне інструкцыі свае за 12 кастрычніка 1928 г. „Пра парадак выдачы пасьведчаньняў асобы“.**

Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР пастанаўляе дапоўніць арт. 2 інструкцыі свае за 12-X 1928 г. „Пра парадак выдачы пасьведчаньняў асобы“ (Бюл. СНК БССР 1928 г. № 14) пунктам „к“, запісаўшы яго так:

„к) перасяленцкі білет НКЗ“.

Нам. Народнага Камісара
Ўнутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

18 верасьня 1929 г.
№ 65.

---

Узгоднена з Белмалжывёлсаюзам і Групай Сельскае Гаспадаркі і Вэтэрынарыі НКЗ БССР.

## 19. Санітарныя правілы пра гандаль малаком і малочнымі прадуктамі.

1. Адчыненьне малочных крам і вызначэньне іншых месц для гандлю дазваляецца пасьля папярэдняга агляду іх санітарным наглядам, паводле п. 4 пастановы СНК БССР за 26-IX 1926 г. „Аб санітарных органах НКЗ БССР“.

*Увага.* Для ўпарадкаваньня існуючых малочных крам, якія не адпавядаюць свайму прызначэньню, санітарным наглядам сумесна з гаспадарчымі органамі вызначаецца пэўны тэрмін, які не павінен перавышаць аднаго году.

2. Гандаль малаком і малочнымі прадуктамі дазваляецца ў спэцыяльных крамах альбо на рынку, на спэцыяльна вызначаных месцах, дзе сталы для продажу малака павінны быць ня ніжэй $^3/_4$ мэтра ад зямлі.

3. У прадуктовых крамах продаж малака і малочных прадуктаў дазваляецца ў асобна вызначаных і прыстасаваных для гэтага мясцох.

4. Каля месц продажу малака забараняецца трымаць і прадаваць іншыя тавары з рэзкім няпрыемным пахам.

5. Памяшканьне для гандлю малаком і малочнымі прадуктамі павінна быць прасторным і сьветлым і трымацца заўсёды ў чыстаце і парадку. Прылаўкі і сьцены (на вышыні ня менш 1,5 мэтра ад падлогі) павінны быць афарбаваны белай масьлянай альбо клеявай фарбай, падлога павінна быць непрапушчальнай для вады.

*Увага.* Непрапушчальнымі лічацца падлогі бэтонныя, плітачныя альбо драўляныя з шчыльна зьбітых у закрой дошчак, афарбаваныя масьлянай фарбай або засланыя лінолеўмам.

6. Месцы продажу і хаваньня малака і малочных прадуктаў не павінны быць бліжэй 10 мэтраў ад выграбных і сьмецьцявых ям і іншых месц бруду.

7. Малочныя прадукты павінны быць ад забруджваньня мухамі і пылам забаронены каўпакамі, сеткамі і г. д., вокны ў летнія месяцы павінны завешвацца марляй ці мэталёвымі сеткамі.

8. Асобы, што гандлююць малаком і малочнымі прадуктамі, павінны насіць чыстыя халаты з белай тканіны альбо фартухі да шыі з нарукаўнікамі.

9. Забараняецца спрабаваць малако з пасуды, у якой яно прадаецца.

10. Малако і малочныя прадукты для продажу павінны быць дабраякаснымі: сьвежымі, поўна-каштоўнымі і нефальсіфікаванымі.

*Увага.* Стандартныя нормы малака і мінімум тлушчу ў ім вызначаюцца мясцовымі санітарнымі органамі разам з органамі НК Земляробства і іншымі зацікаўленымі гаспадарчымі арганізацыямі.

11. Асобы, якія гандлююць малаком і малочнымі прадуктамі, падлягаюць мэдычнаму агляду паводле пастановы НКАЗ і НКП БССР „Аб мэдычным аглядзе рабочых і служачых, занятых у харчовых прадпрыемствах, гандлі і прамысловасьці“ (Бюл. СНК БССР 1928 г., № 6).

*Увага.* Стан здароўя прыгарадных сялян і асоб, якія заняты ў саўгасах і калгасах, што стала займаюцца малочнай гаспадаркай і дастаўкай малака ў месцы збыту, сьведчыцца ня менш аднаго разу ў 2 месяцы раённымі або вучастковымі дактарамі. Гэтыя-ж сяляне і гаспадаркі павінны заўсёды мець пасьведчаньне ад вучастковых вэтэрынарных дактароў аб здароўі сваіх малочных кароў.

12. Посуд, што ўжываецца ў малочнай гаспадарцы і гандлі малаком і малочнымі прадуктамі, павінен быць зручным для карыстаньня, з няшкоднага для здароўя матарыялу, лёгкім для чысткі і заўсёды трымацца ў чыстаце і парадку.

13. Малако ад хворых кароў і забруджанае прадаваць забараняецца.

14. У месцах сталага гандлю малаком і малочнымі прадуктамі павінны знаходзіцца санітарныя сшыткі ўстаноўленага органамі аховы здароўя ўзору, у якія санітарны доктар запісвае свае заўвагі.

15. У адпаведнасьці з гэтымі правіламі выканаўчыя камітэты і гарадзкія саветы выдаюць абавязковыя пастановы з вызначэньнем пакараньня за парушэньне іх.

Народны Камісар Аховы Здароўя БССР *М. Барсукоў.*

Нам. Народнага Камісара
Ўнутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

21 жніўня 1929 г.
№ 87.

---

## 20. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя і Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі БССР

**пра парадак адлічэньняў на барацьбу з малярыяй на торпараспрацоўках БССР і выдаткаваньня паступленьняў ад гэтых адлічэньняў.**

На падставе пастановы НКАЗ, ВСНГ і НКП БССР за 7 чэрвеня 1926 г., № 43, Народны Камісарыят Аховы Здароўя і Вышэйшы Савет Народнае Гаспадаркі БССР прапануюць для абавязковага выкананьня наступнае:

1. Для арганізацыі і ажыцьцяўленьня мерапрыемстваў па барацьбе з малярыяй на тэрыторыі торпараспрацовак БССР, усе прадпрыемствы па торпараспрацоўках адлічваюць па 0,05 кап. з кожнага пуда фактычнай здабычы торпу.

2. Адлічэньні на барацьбу з малярыяй праводзяцца прадпрыемствамі штогод не пазьней 1 сакавіка.

*Увага.* Адлічэньні пачынаюцца з торпсэзону 1928-29 г.

3. Усю суму адлічэньняў прадпрыемствы, што распрацоўваюць торп, уносяць у паказаны ў п. 2 тэрмін у Дзяржаўны Банк на спэцыяльны бягучы рахунак НКАЗ БССР, які іх выдаткоўвае па ўзгодненым з ВСНГ БССР каштарысе на наступнае прызначэньне:

а) на арганізацыю агульнага кіраўніцтва барацьбой з малярыяй на тэрыторыі торпараспрацовак, на санітарна-асьветную працу, на навуковую распрацоўку пытаньняў, зьвязаных з малярыяй на торпараспрацоўках, на пабудову і абсталяваньне новых малярыйных станцый і палепшаньне і ўдасканаленьне існуючых,

б) на ўтрыманьне малярыйных станцый на торпараспрацоўках і правядзеньне супроцьмалярыйных мерапрыемстваў,

в) на правядзеньне супроцьмалярыйных мерапрыемстваў у мясцох сталага пражываньня сэзонных торпрабочых, прычым на гэтую мэту НКАЗ БССР павінен выдаткоўваць ня менш 20 проц. агульнай сумы адлічэньняў.

*Увага.* Выдаткаваньне грашовых сродкаў робіцца альбо самім НКАЗ непасрэдна альбо праз яго мясцовыя органы.

4. Нагляд за сваечасовым паступленьнем адлічэньняў на паказанае вышэй прызначэньне ўскладаецца на ВСНГ БССР.

5. Парадак грашовай і статыстычнай справаздачнасьці мясцовых органаў НКАЗ па барацьбе з малярыяй на торпараспрацоўках устанаўляецца асобнай інструкцыяй НКАЗ БССР.

6. Праз 3 месяцы пасьля сканчэньня аперацыйнага году НКАЗ падае ВСНГ зборную справаздачу аб выкананьні прыбыткова-выдатковага каштарысу і аб выніках супроцьмалярыйнай кампаніі за мінулы аперацыйны год.

Народны Камісар Аховы Здароўя БССР *М. Барсукоў.*

Нам. Старшыні Вышэйшага Савету
Народнае Гаспадаркі БССР *Стракоўскі.*

11 верасьня 1929 г.
№ 92.

---

## 21. Загад Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі БССР

**пра падрыхтоўку рабочае сілы для прадпрыемстваў ВСНГ БССР.**

У адпаведнасьці з абежнікам ВСНГ БССР за № 110 за 20/VIII — 1929 г., абвешчанага ў „Торгово-Промышленной газете“ за 3/IX 1929 г. № 202, у сувязі з перадачай школ фабрычна заводзкага вучнёўства пад ведамам ВСНГ БССР, на Групу Эканомікі Працы ўскладаецца наступнае:

I. У частцы плянаваньня падрыхтоўкі рабсілы для прадпрыемстваў БССР рэспубліканскага і мясцовага значэньня—устанаўленьне патрэб у рабсіле, якая падлягае падрыхтоўцы, і пляну здавальненьня гэтай патрэбы і складаньне сводных плянаў патрэбы падрыхтоўкі рабсілы для прамысловасьці БССР.

II. У частцы аперацыйнай — кіраваньне працай па падрыхтоўцы рабсілы:

а) аперацыйнае кіраваньне падрыхтоўкай рабсілы для прадпрыемства ВСНГ БССР паводле агульных дырэктыў ВСНГ БССР;

б) вызначэньне разьмераў і напрамку капітальных і бягучых выдаткаў па падрыхтоўцы рабсілы для прамысловасьці ВСНГ БССР;

в) паводле агульнага пляну ВСНГ СССР, падрыхтоўка і перападрыхтоўка інструктарскага і пэдагагічнага пэрсаналу ўстаноў па падрыхтоўцы рабсілы і працаўнікоў прафтэхасьветы;

г) на падставе дзейнічаючых законаў і агульных норм прыманьня ва ўстановы, падрыхтоўка рабсілы, устанаўленьне сумесна з Н. К. Працы і НК Асьветы БССР правіл прыманьня ў школы фаб.-зав. вучнеўства;

д) агульны нагляд за падрыхтоўкай рабсілы для прамысловасьці БССР і падрыхтоўка для прадстаўленьня ВСНГ СССР прапаноў па мерапрыемствах па падрыхтоўцы рабсілы для прадпрыемстваў агульнасаюзнага значэньня;

е) падрыхтоўка для вырашэньня Прэзыдыуму ВСНГ БССР матарыялаў па спрэчных пытаньнях па падрыхтоўцы рабсілы паміж Наркамасьветы і прадпрыемствамі, паводле п. „а“ паказанага абежніку ВСНГ СССР № 110.

III. У навучальна-мэтадалёгічнай частцы:

а) правядзеньне ўзгодненай з Наркамасьветы сыстэмы падрыхтоўкі рабсілы на прадпрыемствах ВСНГ БССР;

б) распрацоўка, па ўзгадненьні з ВСНГ СССР і Наркампрацы БССР, навучальных і мэтадычных матарыялаў па галінах прамысловасьці БССР.

IV. Непасрэднае кіраваньне працай падпарадкаваных ВСНГ БССР навучальных устаноў і курсаў па падрыхтоўцы рабсілы і ўдзел з боку ВСНГ БССР у працы Наркамасьветы БССР і інш. устаноў і арганізацый па падрыхтоўцы рабсілы.

V. Паводле агульных палажэньняў па прамысловасьці ВСНГ БССР, арганізацыя ўцягненьня ў работу падрыхтоўкі рабсілы навукова-тэхнічных і інжынэрна-тэхнічных сіл.

VI. Падтрыманьне цеснай сувязі з навукова-дасьледчымі ўстановамі па справе падрыхтоўкі рабсілы і арганізацыя сумесна з гэтымі ўстановамі вопытна-паказальнай і навукова-дасьледчай працы па прамысловасьці БССР.

VII. Удзел у правядзеньні мерапрыемстваў па завочнаму навучаньню рабочых, распаўсюджваньні паміж імі тэхнічнай літаратуры і ведаў, удзел у выданьні адпаведнай літаратуры і ўстанаўленьні сувязі з адпаведнымі арганізацыямі.

Час. вык. аб. Старшыні Вышэйшага Савету
Народнай Гаспадаркі БССР *Стракоўскі.*

Вык. аб. Сакратара ВСНГ БССР *Варашылаў.*

9 верасня 1929 г.
№ 327.

---

## 22. Загад Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі БССР

**пра парадак прыйманьня на работу маладых спэцыялістых, якія скончылі вышэйшыя тэхнічныя навучальныя ўстановы і тэхнікумы.**

Паводле п. 6 загаду ВСНГ СССР за 4/IX 1929 г. № 1170, абвешчанага ў „Торгово-Промышленной газете“ за 8/IX 1929 г. № 207, прапануецца пры прыйманьні на работу маладых спэцыялістых няўхільна кіравацца абвешчанай у часопісу „Известия НКТ СССР“ за 22/VIII 1929 г. № 32—33 інструкцыяй НКП СССР за 1/VIII—1929 г. № 247 „Пра парадак разьмяшчэньня на сталую працу асоб, якія скончылі ВТНУ і тэхнікумы“, для чаго:

1) усім трэстам і гаспадарчым адзінкам ВСНГ БССР пры складаньні прамфінплянаў дакладна прапрацоўваць пытаньне аб насычэньні інжынерна тэхнічным пэрсаналам сваіх прадпрыемстваў і ўдакладніць патрэбу іх у маладых спэцыялістых, якія канчаюць ВНУ, ВТНУ і тэхнікумы, зварочваючы пры гэтым у прамфінпляне асаблівую ўвагу на контрактацыю студэнтаў з выдзяленьнем апошняга ў асобнае пытаньне прамфінпляну.

2) Усім трэстам і гаспадарчым адзінкам ВСНГ БССР штогод, не пазьней 1 кастрычніка, падаваць у ВСНГ БССР зьвесткі аб патрэбе ў маладых спэцыялістых на апэрацыйны год па форме і намэнклятуры, якія будуць абвешчаны ў Зборы загадаў па прамысловасьці № 30.

Вытворчыя прадпрыемствы павінны падаваць паказаныя ў п. 2 гэтага загаду зьвесткі адпаведнаму трэсту па тых жа формах і намэнклятуры.

Спазьненьне ў падачы паказаных у п. 2 гэтага загаду заявак зьявіцца прычынай няўключэньня заявак у разьмеркаваньне.

Тэрмін падачы заявак на 1929-30 г. адпаведна працягваецца для трэстаў і гаспадарчых адзінэк да 1 лістапада г.г., а для вытворчых прадпрыемстваў трэстаў—да 15 кастрычніка.

3) У склад камісіі па адбору і накіраваньню маладых спэцыялістых (п. 31 паказанае вышэй інструкцыі НК Працы СССР № 247) пры адборы звыш за 10 спэцыялістых для аднаго трэсту або гаспадарчай адзінкі абавязкова ўваходзіць у якасьці члена камісіі прадстаўнік адпаведнага трэсту або гаспадарчай адзінкі.

4) Акруговым інспэкцыям мясцовай прамысловасьці зрабіць адпаведныя распараджэньні па рэгулюемай прамысловасьці.

Час. вык. аб. Старшыні Вышэйшага Савету
Народнай Гаспадаркі БССР *Б. Баль.*

Час. вык. аб. Сакратара ВСНГ БССР *Варашылаў.*

10 верасьня 1929 г.
№ 329.

---

## 23. Загад Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі БССР

### пра садзейнічаньне арганізацыі і рабоце ашчадных кас пры вытворчых прадпрыемствах.

Прапануецца прыняць да няўхільнага кіраваньня і выкананьня загад ВСНГ СССР за 5 верасьня г.г. № 1176, зьмешчаны ў „Торгово-Промышленной газете“ за 7/IX—г.г. № 206 аб садзейнічаньні рабоце ашчадных кас.

Трэсты і гаспадарчыя адзінкі павінны да 22 гэтага верасьня падаць у ВСНГ БССР падрабязныя зьвесткі аб тым, як у сапраўднасьці выконваюцца дырэктывы па аказаньню садзейнічаньня арганізацыі і рабоце ашчадных кас пры вытворчых прадпрыемствах (у зьвестках трэба паказаць, на якіх прадпрыемствах і з якога часу арганізаваны ашчадныя касы і на якіх яны яшчэ не арганізаваны).

Час. вык. аб. Старшыні Вышэйшага Савету
Народнай Гаспадаркі БССР *Б. Баль.*

Час. вык. аб. Сакратара ВСНГ БССР *Варашылаў.*

11 верасьня 1929 г.
№ 330.

---

## 24. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

### пра стандартныя памолы на 1929-30 г.

На падставе літар „е“ і „і“ арт. 3 палажэньня аб Н. К. Гандлю БССР (З. З. БССР 1928 г. № 34, арт. 319) і пастановы Народнага Камісарыяту Замежнага і Ўнутранага Гандлю СССР за 30 жніўня 1929 г. (прат. № 147, п. 1) Народны Камісарыят Гандлю БССР, на адмену сваіх пастаноў за 6/IX 1928 г. № 51 і за 27/IV 1929 г. № 21 (пра стандартныя памолы)—п о с т а н а ў л я е:

1. Устанавіць на 1929-30 г. наступныя стандартныя памолы для дзяржаўных, каперацыйных і прыватных млыноў, для хлебагандлюючых дзяржаўных і каперацыйных арганізацый (Саюзхлеб, спажывец-

кая капярацыя) і Ваенведу, а таксама для інш. арганізацый і прыватных памольцаў, у тым ліку і сялян:

| | ГАТУНКІ МУКІ | Арыентыров. % выхаду | % зольнасьці | % вільготнасьці | Буйнасьць памолу | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | № сіта | Астатак на сіце |
| 1 | Пшанічны аднагатунк. памол з аднае пшан . | 85 | 1,40 | 16 | 4 | 5% |
| 2 | Пшан. аднагат. памол (85%) з прымешкай да 25%, але ня менш 20%, ячменю з разьліку выхаду мукі: з пшаніцы . . . . | 85 | 1,50 | 16 | 4 | 5% |
| | з ячменю . . . . | 66 | — | — | — | — |
| 3 | Пшанічны двухгатунк. памол з аднае пшаніцы агульн. выхад. мукі 85%, а па гатунках: 1 гат. | 50 | 0,60 | 16 | 5 | 5% |
| | 2 гат. | 35 | 2,50 | 16 | 24 | 5% |
| 4 | Пшанічны двухгатунк. памол з прымешк. да 25%, але ня менш 20%, ячменю агульн. вых. мукі 85%, а па гатунках: 1 гат. . . . | 46 | 0,65 | 16 | 5 | 5% |
| | 2 гат. . . . | 35 | 2,50 | 16 | 24 | 5% |
| 5 | Пшан. адгат. памол. (абойны) з аднае пшан. . | 96 | 1,92 | 16 | 4 | 5% |
| 6 | Житні абойны памол. з 2-хразов. пропуск. праз абойкі . . . . . . . | 96 | 1,92 | 16 | 24 | 5% |
| 7 | Ячменны аднагат. пам. з аднаго ячм. . . | 68 | 1,70 | 16 | 4 | 5% |

2. Двухгатунковы памол пшаніцы для дзяржаўных і каперацыйных арганізацый (Саюзхлеб, спажыв. капярацыя) можа ўтварацца ў кожным паасабным выпадку толькі з асобнага дазволу НК Гандлю БССР, альбо адпаведных інспэкцый гандлю, у той колькасьці, якая будзе апошнімі вызначана.

3. Паказаны ў п. 2 гэтае пастановы двухгатунковы памол для іншых арганізацый (апроч Саюзхлебу, спажывецк. капярацыі і Ваенведу), а таксама для прыватных памольцаў, у тым ліку сялян, не дазваляецца.

Асобнага дазволу НК Гандлю альбо акруговай інспэкцыі гандлю на выпрацоўку 2-хгат. пшан. памолу для Ваенведу ня трэба.

4. Гэта пастанова ўводзіцца ў дзейнасьць з моманту яе апублікаваньня.

5. Нагляд за выкананьнем гэтае пастановы ўскладаецца на акруговых інспэктароў гандлю, Дзяржаўную Хлебную Інспэкцыю, райвыканкомы, міліцыю і сельсаветы.

6. Вінаватыя ў парушэньні гэтае пастановы прыцягваюцца да адказнасьці: службовыя асобы паводле арт. 202 Кр. Код., а прыватныя—паводле арт. 152 Крым. Код.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР *М. Абрамсон.*

Сакратар НКГ БССР *Г. Паплаўскі.*

19 верасьня 1929 г.
№ 43.

## 25. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

### пра ўстанаўленьне норм натуральнага зьмяншэньня тавараў пры розьнічным гандлі.

На падставе літ. „і“ арт. 3 Палажэньня аб НК Гандлю БССР (З. З. БССР 1928 г. № 34, арт. 319) і распараджэньня НК Гандлю СССР за 2/IX 1929 г. № 3880/72, Народны Камісарыят Гандлю БССР пастанаўляе:

1. Увесьці далучаныя да гэтага нормы натуральнага зьмяншэньня тавараў пры розьнічным гандлі, якія лічыць гранічна-максымальнымі і абавязковымі для ўсіх дзяржаўных і каперацыйных гандлёва-прамысловых прадпрыемстваў пры ўсіх выпадках вызначэньня законнага разьмеру натуральнага зьмяншэньня тавараў пры паказаных апярацыях.

2. Паказаныя ў п. 1 гэтае пастановы нормы зьмяншэньня ўстанаўляюцца як максымальны процант скідкі з звароту ў розьнічным гандлі па паасобных гатунках, альбо групах тавараў, пры чым сьпісваньне нехапаючых сум праводзіцца толькі ў тым выпадку, калі пры праверцы фактычнай наяўнасьці тавараў акажацца недахватка супроць кніжных астаткаў.

3. Скідка на натуральнае зьмяншэньне дапушчаецца ў межах устаноўленых норм толькі ў адносінах вагавых тавараў. На тавары, якія зьяўляюцца ўпакаванымі з фабрычнай маркіроўкай, скідка не пашыраецца.

Ва ўстаноўленыя нормы зьмяншэньня ўключаецца: а) параваньне і ўсушка, б) уцечка, в) упітваньне ў тару, г) разьліў пры водпуску, д) правесы, прымазы і паходы пры водпуску, е) раструска, распыл у час хаваньня і водпуску, ж) зьнішчэньне тавару шкоднікамі.

4. Пры выяўленьні (у момант зьверкі кніжных астаткаў з наяўнасьцю) недахопаў тавараў складаюцца адпаведныя акты, якія прадстаўляюцца на разгледжваньне свайму кіраўніцтву або дырэкцыі прадпрыемства. Сьпісваньне натуральнага зьмяншэньня ў межах устаноўленых норм утвараецца толькі пасьля зацьверджаньня актаў адпаведнымі кіраўніцтвамі альбо дырэкцыяй прадпрыемства.

5. Зьмяншэньне, якое перавышае ўстаноўленыя нормы, павінна быць зафіксавана асобнымі актамі з ускладаньнем адказнасьці на вінаватых.

6. Лішкі тавараў, якія выяўляюцца пры перападліку, павінны быць зафіксаваны асобнымі актамі і запісаны па кнігах.

7. Нормы зьмяншэньня як па асобных таварах, так і па групах, дапасоўваюцца да такіх тэрмінаў хаваньня, якія адпавядаюць данаму месцу, тавароваму асартымэнту і нармальнаму звароту.

8. Страты сьпісваюцца па іх фактычных разьмерах, ня выходзячы з межаў устаноўленых норм.

9. Папярэдняе сьпісваньне страт па нормах пры здачы тавару ў магазын не дазваляецца.

10. У тым выпадку, калі страты тавару не аказалася, альбо апошняя аказалася ніжэй устаноўленых норм, перадача ў карысьць адказных за тавары асоб розьніцы паміж устаноўленымі нормамі і фактычнымі стратамі не дазваляецца.

11. Вага тары, прымаз і ўпітваньне ў тару, якія сьпісваюцца разам з вагою тары, абрэзкаў, ачысткі, бою, псаваньня, браку і да г. п. стратамі, якія здарыліся ў працэсе продажу, прыёму і хаваньня тавару, сьпісваюцца па актах у адпаведнасьці з іх сапраўднымі разьмерамі.

12. Выяўленыя бракаваныя і папсаваныя тавары ў тых выпадках, калі магчыма ўстанавіць, што такія паступілі на прадпрыемства ў недабраякасным відзе, фіксуюцца асобнымі актамі. Сьпісваньне іх, як страту, дапушчаецца толькі ў тым выпадку, калі можа быць устаноўлена, што адказнасьць за брак і псаваньне немагчыма аднесьці на пастаўшчыкоў і перавозачныя органы і калі адказны прыёмшчык быў пазбаўлен магчымасьці выявіць гэта пры прыёмцы.

Адказнасьць за брак і псаваньне тавараў, якія здарыліся з прычыны неасьцярожнасьці і нядбайных да іх адносін, альбо хаваньня ў яўна неадпавядаючых для данага тавару ўмовах, ускладаецца на вінаватых.

Упаковачны матарыял, у якім узважваецца адпускаемы тавар (папяровыя мяшкі, папера пэргамінавая альбо звычайная), пры розьнічным гандлі залічваюцца за рахунак магазыну альбо крамы як тавар у разьмеры 50% іх кошту, а астатнія 50% адносяцца за рахунак гандлёвых выдаткаў.

13. Усе раней устаноўленыя нормы зьмяншэньня тавараў пры розьнічным гандлі адмяняюцца з моманту выданьня гэтае пастановы.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР *М. Абрамсон.*

Сакратар НКГ БССР *Г. Паплаўскі.*

23 верасьня 1929 г.
№ 44.

---

*Дадатак.*

## Гранічныя нормы

**натуральнага зьмяншэньня тавараў пры розьнічным гандлі ў магазынах і крамах з мяшаным асартымэнтам.**

| №№ па чарзе | АСАРТЫМЭНТ ТАВАРАЎ | % % зьмяншэньня | Увага |
|---|---|---|---|
| 1 | Бакалейна-каланіяльныя, каўбаса і тутуновыя вырабы | 0,50 | |
| 2 | Бакалейна-каланіяльн., гастранамічныя, тутуновыя, кандытарскія вырабы і садавіна | 0,40 | |
| 3 | Галянтарэя | 0,05 | |
| 4 | Мануфактура | 0,05 | |
| 5 | Мануфактура і галянтарэя | 0,05 | |
| 6 | Мануфактура, галянтарэя і абутак | 0,04 | |
| 7 | Пасуда | — | Бой сьпісваецца па акту. |
| 8 | Жалеза-скабяныя і мэталёвая пасуда | 0,05 | |
| 9 | Шпалеры | — | |
| 10 | Гатовае адзеньне | — | |
| 11 | Абутак | — | |
| 12 | Кніжна-папяровыя | — | |
| 13 | Цацкі | — | |
| 14 | Каўбаса (у спэцыяльных магаз. і крамах) | 1,50 | |
| 15 | Скураныя (вагавыя) | 0,50 | |

| №№ па чарзе | АСАРТЫМЭНТ ТАВАРАЎ | %% зьмяншэньня | Увага |
|---|---|---|---|
| 16 | Скураныя тавары і абутак | 0,20 | |
| 17 | Газа, бэнзын, нафта | 0,50 | |
| 18 | Соль | 0,50 | |
| 19 | Дровы | — | |
| 20 | Сена | 0,60 | |
| 21 | Авёс | 0,60 | |
| 22 | Вугаль мінэральны і драўляны ў тары | 0,60 | |
| 23 | " " " россыпам | 1,50 | |
| 24 | Садавіна і гародніна | 1,25 | Псаваньне сьпісваецца па актах. |
| 25 | Хлебныя і булачныя (вагавыя) | 0,50 | Пры продажы штукамі зьмяншэньня не бывае. |
| 26 | Хлебна-булачныя і кандытэрскія | 0,40 | |
| 27 | Рыбныя, мясныя | 1,30 | |
| 28 | Мясныя | 1,50 | |
| 29 | Рыбныя | 1,00 | |
| 30 | Парфюмэрныя | 0,02 | |
| 31 | Мяшаныя ўсіх відаў (тавары сельск. тыпу) | 0,40 | |

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР *М. Абрамсон.*

Інспэктар НКГ БССР *Л. Галкін.*

23 верасьня 1929 г.

---

## 26. Загад па Народнаму Камісарыяту Гандлю БССР

### пра выкананьне хлебазагатоўчага пляну 1929-30 г.

§ 1.

Поўнае выкананьне хлебазагатоўчага пляну 1929-30 г. у вызначаны тэрмін дыктуе абавязковую неабходнасьць захаваньня ўсім хлебазагатоўчым апаратам жалезнай дысцыплінаванасьці і ўзгодненасьці паміж сабой у сваіх выступленьнях на рынку.

Усялякія праяўленьні самастойных, ведамсьцьвенных выступленьняў паасобных загатоўшчыкаў садзейнічаюць ажыатажу і выклікаюць вострыя формы ўзаемнай канкурэнцыі, якія, бязумоўна, шкодна адбіваюцца на ходзе і тэмпе кампаніі і могуць давесьці да поўнага зрыву хлебазагатоўчага пляну ў паасобных раёнах.

Праводзячы працу ва ўмовах суровых і вострых клясавых боек вакол хлеба за ўздым сельскай гаспадаркі, за індустрыялізацыю і сацыялістычную перабудову ўсяе гаспадаркі краіны з нашым заклятым ворагам—кулаком на вёсцы і спэкулянтам у горадзе—працаўнікі Наркамгандлю і хлебазагатоўчых арганізацый нясуць вялікую адказнасьць перад партыяй і Урадам за забясьпечаньне поўнага посьпеху кампаніі і рашучую перамогу на гэтым фронце.

Выкананьне ўскладзеных на нас вялікіх задач і апраўданьне адказнасьці па давядзеньню барацьбы на гэтым фронце да перамогі магчыма толькі тады, калі ўвесь апарат будзе сурова дысцыплінаваны, калі ўсе яго часткі і паасобныя адзінкі будуць імкнуцца да аднэй адзінай мэты—да дасягненьня і вырашэньня аднэй агульнай задачы, без усялякага разнабою, бяз ведамсьцьвенных захапленьняў, бяз скрыўленьня клясавай лініі, без ажыятажу і канкурэнцыі паміж сабой, якія, бязумоўна, парушаюць яго моц, яго спакойную вытрыманасьць і здольнасьць да перамогі.

§ 2.

З гэтага поваду Народны Камісарыят Гандлю БССР зноў заклікае ўсе хлебазагатоўчыя арганізацыі і ўсіх работнікаў унутры іх апарату, з поўным разуменьнем ускладзенай на нас усіх вялізарнай задачы, безадкладна і рашуча адхіліць у самым пачатку кампаніі ўсе выпадкі ведамсьцьвеннай вузасьці, усялякія магчымасьці здарэньняў канкурэнцыі і са спакойнай вытрымкай і цьвёрдасьцю агульнымі сіламі ўзяцца за дысцыплінаванае выкананьне працы.

Пры гэтым я лічу неабходным папярэдзіць як кіраўнікоў хлебазагатоўчых арганізацый, таксама і паасобных супрацоўнікаў апарату, што, паводле дырэктыў Ураду, супроць вінаватых у парушэньні дадзеных дырэктыў будуць ужыты суровыя меры.

§ 3.

Па маючыхся зьвестках, ужо цяпер наглядаюцца выпадкі недысцыплінаванасьці, ажыятажу і ўзаемнай канкурэнцыі па хлебазагатоўчай кампаніі. Так, Саюзхлеб у некаторых мясцовасьцях самастойна адчыняе хлебазагатоўчыя пункты, ня гледзячы на тое, што гэта дапушчаецца выключна па спэцыяльнаму ўзгадненьню з НК Гандлю. Маюцца здарэньні (Менская акруга), калі працаўнікі Саюзхлеба пераманвалі да сябе чырвоныя абозы, якія накіраваны былі ў спажывецкую капярацыю, і наадварот. Менскі Акрсельсаюз ужо праводзіць прэм'яваньне прамтаварамі здатчыкаў хлеба без усялякай устаноўкі, ня гледзячы на тое, што прэм'яваньне павінна пачацца толькі з 1/Х 1929 г., а таксама, што с.-г. капярацыі наогул забаронен гандаль дэфіцытнымі прамтаварамі спажывецкага характару.

Прапаную Менскаму Акруговаму Інспэктару Гандлю ў самым тэрміновым парадку праверыць гэтыя факты і высьветліць вінаватых, якіх безадкладна прыцягнуць да крымінальнай адказнасьці за зрыў хлебазагатоўчай кампаніі. Адначасова прыняць рашучыя меры да спыненьня магчымасьці паўтарэньня такіх выпадкаў.

Усім акруговым інспэктарам гандлю прапаную зараз-жа праверыць такія здарэньні па іх акругах і прыняць самыя рашучыя захады да пакараньня вінаватых.

Аб усім зробленым у гэтай галіне тэрмінова далажыць мне.

Народны Камісар Гандлю БССР *К. Бэнэк.*

Сакратар НКГ БССР *Г. Паплаўскі.*

25 верасьня 1929 г.
№ 45.

Час. вык. аб. адказнага рэдактара **С. Лодысеў.**